„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 23 (119) БЕЛАСТОК, 8 ЧЭРВЕНЯ 1958 г. ГОД III

# КАНЦЭРТ ДРУЖБЫ



*Беларускі хор.*

Вялікім святам нацыянальных меншасцей у Польшчы быў канцэрт найлепшых самадзейных мастацкіх калектываў, які адбыўся 2 чэрвеня г. г. у Варшаве. Канцэрт сарганізавала Міністэрства культуры і мастацтва супольна з таварыствамі нацыянальных меншасцей. Надзвычай каштоўная ініцыятыва Міністэрства заслугоўвае на вялікую пахвалу.

Упершыню ў гісторыі Народнай Польшчы, а праўдзівей кажучы ўпершыню ў гісторыі наогул, нарадзілася думка наладжання такога канцэрта. Арганізацыя нацыянальнага канцэрта была эксперыментам і, трэба сказаць, эксперыментам удачлівым. Аднак пры ажыццяўленні кожнага эксперымента заўсёды ўзнікаюць пэўныя недахопы і перашкоды. Таму, зразумела, не можна было іх пазбыцца і ў гэтым выпадку.

Арганізатары канцэрта не спадзяваліся, што выкліча ён так вялікае зацікаўленне, што зала тэатра «Розмаітосці» акажацца замалой, што жыхары Варшавы будуць «акупіраваць» тэатр і прапанаваць грошы за бясплатныя запрашэнні. Думалі таксама, што прыезд мастацкіх калектываў у Варшаву на дзень да канцэрта дазволіць адпачыць удзельнікам, калі гэта наадварот, вымучыла іх да апошняга. У сувязі з тым, што не было магчымасці запэўніць калектывам транспарту, прыходзілася ісці пехатою з аднаго квартала горада ў другі таму што немагчымасцю было вялікім групам забрацца адначасова на гарадскі трамвай ці аўтобус.

Трэба аднак сказаць, што арганізатары нацыянальнага канцэрта рабілі што толькі было ў іх сілах, каб адбыўся ён як найлепш.

Невялікая тэатральная зала запоўнілася да апошняга месца. Тым, што атрымалі запрашэнні без пададзеных месц не было іншага выхаду, як толькі стаяць пад сцяной. Перад тэатральнай шырмай з'явіўся сімпатычны канферанс'е — З. Славінскі — артыст Народнага тэатра ў Варшаве. Аб'яўляе ён пачатак канцэрта.

Першымі выступаюць мастацкія калектывы чэхаў і славакаў. Плывуць са сцэны мілагучныя чэшскія і славацкія мелодыі, цешаць вока жывыя славацкія танцы, нясецца музыка народнай капелы.

Другім выступае літоўскі хор з Пуньска. Нясмела ўсміхаюцца са сцэны прыгожыя дзяўчаты ў прыгожых нацыянальных касцюмах. Гучаць словы меладычных лірычных літоўскіх песень.

З'яўляецца на сцэне беларускі хор з Беластока пад кіраўніцтвам Г. Зюлкоўскай. Прыемная ўсмешка сімпатычнага кіраўніка, вясёлы і сонечны выгляд гэтага калектыву ад самага пачатку з'едноўваюць сабе залу. Добрае выкананне трох песень выклікае надзвычай жывую рэакцыю. Апладысментам няма канца. Выступае балетная беларуская група пад кіраўніцтвам Т. Гіжэўскай. Дасканалае, тэхнічна дапрацаванае выкананне беларускіх народных танцаў, «Крыжачка» і «Лянка», а асабліва «Лявоніхі» выклікае небывалае захапленне залы. Гэтае захапленне яшчэ становіцца больш выразным, калі на сцэну выходзіць трыё з Гарадка і выконвае вясёлую беларускую народную песню «Баба Ксюта, дзед Тамаш» і беларускія частушкі, якіх словы спецыяльна напісала на гэтую ўрачыстасць Н. Мушынская. Трыё выступае на біс з вясёлымі рускімі частушкамі.

У часе антракта многія задаюць пытанні ці беларускі калектыў Песні і Танца не з'яўляецца прафесіянальным. Сведчыць гэта найлепш аб тым, што ён сапраўды ўсім падабаўся і што заслугоўвае на пахвалу.

Пасля антракта выступаюць яўрэйскія мастацкія калектывы. Дзіцячая танцавальная група са Шчэціна выступае з фрагментамі басні М. Канапніцкай «Па ягады». Канферанс'е аб'яўляе яўрэйскі мешаны хор, які распачынае сваю праграму песняй пад загалоўкам: «Збрэнт» (гарыць), напісанай зусім неведаючым нот кракаўскім столярам Гебірлігам, які загінуў у геце. Хор захапляе залу высокай тэхнікай і дасканалымі галасамі. Падабаўся таксама дасканалы секстэт, які выканаў прыгожую песню «Ёшкэ едзе ў армію». А ўжо найбольш падабалася мужчынскае трыё з добрай мімікай, у якога выкананні пачулася старадаўнюю гусыцкую песню.

Выступае рускі хор з Варшавы пад кіраўніцтвам Б. Мулярчыка. Хор выконвае рускія народныя песні. Выступаюць салісты Г. Каліш, А. Санеўскі і І. Блізнянская. Найбольш захапляе залу прыгожая песня «Хвалі Амура», якую выканаў рускі хор на заканчэнне сваёй праграмы. Трэба тут успомніць і аб тым, што ў рускую праграму быў уплецены рускі жартоўны танец у выкананні беларускіх салістаў з Бельскай балетнай групы — Я. Крупы і Т. Савіцкай. Таленавітыя акцёры атрымалі бурныя воплескі.

Апошнімі ў канцэрце выступілі украінскія мастацкія калектывы. Хор пад кіраўніцтвам праф. Курочко захапіў прысутных прыгожымі народнымі касцюмамі, добрым выкананнем і меладычнымі украінскімі народнымі песнямі. Вельмі добра выступіла танцавальная група, якая выканала гуцульскі танец. А ўжо напэўна незабыўнае ўражанне зрабіў на прысутных надзвычай мілы таленавіты хлапец А. Адамаў, які дасканала выканаў танец «Чумак».

Канцэрт пакінуў па сабе глыбокі ўспамін, незабыўныя ўражанні. Калі-б прыйшлося камісіі пунктаваць кожны нумар праграмы і вызначаць месцы паасобным калектывам — гэта было-б сапраўды вельмі трудным. Кожны мастацкі калектыў меў у сваёй праграме нешта арыгінальнае, захапляючае, непаўтаральнае.

Канцэрт паказаў усю красу духоўнага жыцця нацыянальных меншасцей у Польшчы. Быў ён сур'ёзным укладам у культурнае жыццё нашай краіны. Гэты канцэрт павінен быць штуршком да далейшага паспяховага развіцця культуры нацыянальных меншасцей, якія ў будучыні павінны паказаць яшчэ у большым маштабе яе невычэрпныя крыніцы. І таму напэўна будучыя канцэрты пакажуць яшчэ ў большай ступені дасягненні культуры нацыянальных меншасцей, якія ва ўмовах народнай улады ў Польскай Народнай Рэспубліцы маюць неабмежаваныя магчымасці развіцця свайго культурнага жыцця.

В. Ш.

**УВАГА!**

**10 чэрвеня канчаецца тэрмін падпіскі на „НІВУ" на III квартал г. г.**

## Як ажывіць Беластоцкі аддзел БГ-КТ

Над гэтым працавала Пленум Павятовага Аддзела Беларускага таварыства ў Міхалове.

Пленум распачало работу ад паляпшэння свайго кіраўніцтва. Праведзена выбары старшыні і сакратара Праўлення. Старшынёю выбрана Аляксандра Лаўрашука і сакратаром — Янку Сераду.

У самым мястэчку Міхалова існуюць добрыя ўмовы для грамадска - культурнай працы. Ёсць шмат моладзі, з якой трэба толькі ўмела папрацаваць. Добра пастаўленая мастацкая самадзейнасць зацікавіць насельніцтва — беларусаў і палякаў. Зблізіць з сабою.

У прасторных «апартаментах» дома культуры моглі-бы свабодна рэпетыраваць хор і драматычны гурток. Беларускае таварыства пад сваёй эгідай магло-б паспрабаваць наладзіць маладзёжны клуб. Такім чынам, мабыць ўдалося-б разграміць «клуб карцёжнікаў», які цяпер там гнездзіцца.

Пленум зацвердзіла таксама канкрэтныя пачынанні па гаспадарча - фінансавай дзейнасці Праўлення Аддзела БГ-КТ.

На маю думку, добра сталася, што штатным сакратаром выбрана Янку Сераду, які паходзіць з асяроддзя актыўнай моладзі вёскі Новая Воля. Перад гэтым маладым дзеячом стаіць непачаты прастор усяго Беластоцкага павета — ад Ялоўкі да Заблудава. Безумоўна, асноўнай формай нашай культурнай дзейнасці — гэта мастацкая самадзейнасць. І ад яе трэба пачынаць працу як у Міхалове так і ў Шымках, Вейках, Баршчэве ці іншых вёсках. Не абавязкова ўсюды «біць» на хор. Няхай на пачатак будзе хаця-б трыё спевакоў...

Прытым у ніякім выпадку нельга забываць аб навучанні беларускай роднай мове ў школах і безупынным павышанні падпіскі на «Ніву».

## Выстаўка народнага мастацтва нацыянальных меншасцей

Міністэрства культуры і мастацтва разам з грамадска-культурнымі таварыствамі нацыянальных меншасцей (апрача яўрэйскага) сарганізавалі ў Старамейскім доме культуры ў Варшаве выстаўку народнага мастацтва нацыянальных меншасцей

2 чэрвеня г. г. адбылося ўрачыстае адкрыццё гэтай выстаўкі. Выстаўку адкрыў Ч. Калужны — дырэктар дэпартамента культурна - асветнай працы Міністэрства культуры і мастацтва. Дырэктар Ч. Калужны падзякаваў ад імя Міністэрства таварыствам і аддзелам культуры за падбор, у так кароткім часе, экспанатаў на выстаўку, а таксама тым людзям, якія прымалі непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы выстаўкі на месцы. Найбольш працы ў арганізацыю выстаўкі ўлажылі камісар выстаўкі мгр. А. Матэлёва — прадстаўнік Грамадска-культурнага таварыства чэхаў і славакаў у Польшчы, інжынер-архітэкт Ч. Лончка і мастак Б. Кежкоўскі.

Выстаўка народнага мастацтва нацыянальных меншасцей з'яўляецца эксперыментальнай, першай гэтага роду выстаўкай у Польшчы. На яе базе будзе адбывацца падрыхтоўчая навуковая праца да арганізацыі ў наступным годзе цэнтральнай, на высокім узроўні, выстаўкі. Аднак і гэтая першая выстаўка з'яўляецца даволі цікавай. Знаходзіцца на ёй 155 розных экспанатаў: ільняныя ткані, абрусы, вышываныя ручнікі, дываны, саяны, вышываныя кашулі, кажухі, кераміка, бандарскія вырабы і многа іншых. Ёсць, напрыклад, сярод беларускіх экспанатаў прыгожы ільняны саян і вышываная мужчынская кашуля, выкананы яшчэ ў 1895 годзе Вольгай Качаноўскай з вёскі Крывая ў Бельскім павеце.

Дзве невялікія залы не маглі змясціць большай колькасці экспанатаў. На выстаўку папалі экспанаты найбольш характэрныя для розных нацыянальнасцей. І вось таму гэтая выстаўка з'яўляецца цікавай. Яна знаёміць наведвальнікаў з дасягненнямі нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы, у галіне народнага мастацтва.

В. Ш.

## Баль дружбы

31 мая 1958 года ў зале Галоўнага Праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы ў Варшаве адбыўся Баль дружбы. Арганізатарамі былі Камітэт Саюза Соцыялістычнай Моладзі Варшава — Старэ Място і моладзь з Беларускага, Рускага і Украінскага культурных таварыстваў.

Баль прайшоў у сардэчнай атмасферы і напэўна прычыніцца да ўмацавання дружбы паміж польскай моладдзю і моладдзю нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы.

В. Ш.

## Міхась Забэйда на хвалі 470.2 м.

Шмат нашых чытачоў чула вядомага беларускага спевака Міхася Забэйду (Суміцкага) яшчэ перад вайною. Чытачы звярталіся да нас з запытаннем: дзе Забэйда, чаму не спявае? Тых напэўна ўзрадуе ліст, які мы нядаўна атрымалі з Прагі. Піша... Міхась Забэйда (Суміцкі). Піша, што ў суботу 14.VI.58 г. у 11 гадзін 40 мінут (варшаўскага часу) будзе спяваць па радыё песні розных народаў. Мае там быць і «Ці не дудка мая». Спяваць будзе 20 мінут на хвалі 470,2 (Прага I) (да абеда).

Дарэчы, ці няма магчымасці запрасіць выдатнага беларускага спевака ў Польшчу?

## 14—15 чэрвеня ў Беластоку — Дзяржаўная харавая капэла БССР

13 чэрвеня прыязджае ў Польшчу 60-асабовая Дзяржаўная харавая капэла Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Рыгора Раманавіча Шырмы.

Харавая капела свае турнэ распачне ад Беластока. У Беластоку харавая капела выступіць два разы: 14 і 15 чэрвеня.

# Ёсць чаму навучыцца ў сялян з Пагажалак

Паміж невялікіх, пясчаных узгоркаў у заходняй частцы Беластоцкага павета ляжыць польская вёска Пагажалкі.

Цікавыя людзі жывуць у Пагажалках. Цяжкае жыццё, спрадвечныя недахопы яшчэ калісь гуртавалі іх да супольнай калектыўнай працы. Вялікія традыцыі тут супольнай згуртаванай працы. Жыхары вёскі яшчэ і цяпер з вялікай любоўю ўспамінаюць Францішка Дудзінскага — старога, сялянскага прагрэсіўнага дзеяча, які заўсёды іх навучаў, што толькі супольнымі сіламі, толькі ў калектыве яны змогуць пракласці дарогу да лепшага, больш раданага жыцця.

Вядома, тады не было адпаведных умоў да гэтага. Санацыйны ўрад перадваеннай Польшчы ўсімі сіламі імкнуўся затрымаць сялян у цемнаце і несвядомасці, намагаючыся перашкодзіць у дзейнасці прагрэсіўных, сялянскіх арганізацый. Нягледзячы на гэта, жыхары Пагажалак ужо тады арганізавалі сялянскі гурток, у якім праводзілі сельскагаспадарчую і палітычную адукацыю. Гурток пачаў разгортваць у вёсцы і грамадска-культурную дзейнасць.

За добраахвотныя складчыны сялян, быў куплены ў акалічным маёнтку дом, перавезены ў вёску і была распачата пабудова вясковага Дома культуры. Калі зрабілі фундаменты і палажылі некалькі вянкоў зруба, у вёску нечакана прыехаў Беластоцкі староста.

— Хто вам дазволіў гэта рабіць?! — звярнуўся ён да працуючых пры пабудове сялян.

— На грамадскім сходзе так вырашана, — адказаў нехта нясмела.

— На грамадскім сходзе, вось дык важная ўстанова, — іранічна заўважыў староста. Спакойнае жыццё вам у вёсцы немілае, палітыкаваць пачынаеце, чорт ведае, што выдумляеце, мабыць у турме захацелася вам пабыць, — абурыўся староста.

— Хто тут адказны за пабудову? — звярнуўся ён да сялян.

— Усе мы адказныя, — адказалі яны.

Староста скрыгатнуў зубамі і ад'ехаў.

— Хай едзе к чорту! — прагаварыў нехта — усіх не арыштуе. На гэты раз ніхто не застаўся арыштаваным, толькі паліцыя пачала часцей заглядаць у вёску і сачыць, прыслухоўвацца да сялянскіх гутарак.

Не на руку санацыйнаму ўраду была згуртаванасць і калектыўная праца сялян.

Мары Пагажалкаўскіх сялян змаглі толькі здзейсніцца ў вольнай ад класавага прыгнёту, народнай Польшчы. У першыя-ж гады народнай улады жыхары Пагажалак арганізавалі сельскагаспадарчы гурток, машынавыя суполкі.

У выніку супольнай працы і застасавання навейшых метадаў апрацоўкі глебы, пясчаная зямелька пачала даваць ураджай. Ураджайнасць з гектара значна павялічылася і праца стала лягчэйшай. Шмат у гэтым дапамагла дзяржава. У вёску часта пачаў прыязджаць аграном. Арганізаваўся таксама гурток сялянскіх жанчын, у якім Пагажалкаўскія жанчыны навучыліся рацыянальнаму гаспадараванню кухняй і шмат іншаму.

Пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі і гуртка ЗСЛ, у апошнія гады тут шырока разгарнулася культурная дзейнасць. Па ініцыятыве членаў партыі было пастаноўлена пабудаваць вясковы дом культуры. Шмат было турбот, шмат захадаў, а што найважнейшае, шмат работы. Дом культуры, каштаваў 1.200 тысяч злотых. Большую частку гэтых выдаткаў узяла на сябе дзяржава, аднак шмат работы зроблена грамадскім чынам жыхароў Пагажалак.

25 мая г. г. у дзень народнага свята, у Пагажалках адбылося ўрачыстае адкрыццё новапабудаванага, прыгожага вясковага дома культуры. На ўрачыстасць прыехалі прадстаўнікі ваяводскіх улад на чале з першым сакратаром КВ ПЗПР у Беластоку А. Лашэвічам. Быў таксама прадстаўнік Н. К. ЗСЛ Ю. Голай і прадстаўнікі рабочых з Беластока. Масава прыйшлі таксама сяляне ўсіх акалічных вёсак. У сваіх выступленнях падчас урачыстасці яны сардэчна дзякавалі партыі і народнай уладзе, за клапатлівасць і дапамогу ў развіцці грамадска-культурнага жыцця вёскі.

У новым доме культуры між іншымі змясціўся пункт аховы здароўя, чытальня, прэзідыум ГРН, крама ГС. Мясцовы харавы і драматычны калектыў мастацкай самадзейнасці, які ўжо налічвае 30 асоб, знойдзе тут таксама адпаведнае мейсца для развіцця сваёй культурнай дзейнасці.

Шырокія планы калектыўнай працы маюць жыхары Пагажалак і на будучыню. Яны грамадскім чынам ужо зрабілі фундаменты пад вясковую лазню, якую намерана пабудаваць яшчэ ў гэтым годзе. У гэтым годзе будзе таксама пабудавана злеўня малака. Прадбачваецца пабудова жыллёвых дамоў доктару і настаўніку. Прыгожыя гэта планы. Ёсць чаму навучыцца ў сялян - калектыўшчыкаў з Пагажалак. (вб)



*У Пагажалках...*

## Сям'я народных мастакоў



*Мабыць не многа знойдзецца ў нас такіх жанчын, каб так прыгожа ўмелі ткаць дываны, як тчэ Люба Крук з Нетупы на Сакольшчыне. Вельмі таленавітая гэта жанчына. З пад яе спрацаваных пальцаў выходзяць цудоўныя дываны з народнымі ўзорамі. Дываны Люба Крук тчэ ад наймалодшых год.*

*— Гэта ў нашай сям'і, — кажа яна, — пераходзіць з пакалення ў пакаленне. Мае чатыры дачкі, ужо не горш ад мяне ўмеюць ткаць, — дадае Люба Крук з гонарам.*

*Люба Крук мае ўжо 56 год. Яна маці 12 дзяцей, (8 сыноў і 4 дачкі). Найстарэйшаму сыну 33 гады, наймалодшаму — 9.*

*Нядаўна ўрад ПНР. Любу Крук, як прыкладную маці, узнагародзіў Сярэбраным крыжам заслугі.*

*На здымку: Люба Крук са сваім мужам Аляксандрам.*

*(вб)*

*фото — а. а.*

## Моладзь вучыцца

Пазашкольная моладзь у Ялоўцы і Падазеранах (Беластоцкі павет), якая не мае закончаных 7 класаў пачатковай школы, у мінулым тыдні здавала экзамены. Такім чынам у Ялоўцы 5 чалавек, а ў Падазеранах 7 чалавек, здалі паспяхова экзамены. Пажаданым было-б, каб моладзь і іншых вёсак заразілася пачынаннямі моладзі Ялоўкі і Падазеран і закончыла 7 класаў. -

## Каб такіх больш

Антон Вельдовіч з Бялявіч (Беластоцкі павет) і ўся яго сям'я, з'яўляюцца палымянымі чытачамі «Нівы». З вялікай нецярплівасцю яны чакаюць на кожны наступны нумар. Аб тым, што ўсе члены гэтай сям'і з'яўляюцца страстнымі чытачамі і прапагатарамі «Нівы» ведаюць не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў суседніх.

---

рад святам 1-мая. Паліцыя перад кожным рэвалюцыйным святам праводзіла масавыя арышты.

У «Дэфе» арыштаваныя праходзілі цяжкія выпрабаванні. Тыя, якія тут «даспявалі», былі загартаванымі, цярпелі, лягчэй пераносілі катаванні. Аляксей Трашчотка другі раз трапіў пад трэціраванне. Вытрываў, але боль, які ён пачуў у часе катавання, прымушаў яго вырвацца з рук агідных катаў. Пасаджаны ў асобны пакойчык, у той момант ён думаў толькі аб адным — уцячы.

Думка аб тым, што заўтра распачнецца крывавы допыт, наводзіла на яго жах.

— Што рабіць? — думаў ён.

Пагляд Аляксея спыніўся на коміне печы. Устаў, паглядзеў уважліва. Вялікая ўмураваная труба. Дзіра ў столі была дастатковай.

Асцярожна каб не пачуў стражнік, Аляксей стаў адлупліваць рукамі цвёрдую гліну. Пот заліваў яму твар. Труба ўсё яшчэ была не зварушанай. Трэба было вымаць кафлі. Калі ўдалося зрушыць першую, астатнія пайшлі ўжо лягчэй. У пакоі было поўна пылу. Раптам у калідоры пачуліся цяжкія крокі. У Аляксея закалацілася сэрца.

— «Калі адчыняць і ўвойдуць, усё прапала, — падумаў. Але крокі неўзабаве прыціхлі. Трашчотка энергічна ўзяўся за працу.

— «Мушу адтуль уцячы», — гэтая думка біла ў галаву. Пасля некалькіх мінут выцягнуў трубу і праз дзіру ў столі пралез на гару будынка. Зняў некалькі чарапіц, потым хутка парваў порткі і пінжак на палоскі і, звязаўшы правізарычную вяроўку стаў спускацца. Яшчэ хвілінка і ўжо пад босымі нагамі адчуў ён зямлю.

У адной бялізне, з усіх сіл пабег ён у цёмную вулачку. Ноччу дабег да лесу. Тут адчуваў сябе зусім бяспечна. Паліцыя толькі на другі дзень заўважыла, што Трашчотка ўцёк.

Больш чым поўгода хаваўся ён ў Белавежскай пушчы. Тут жыў. Мясцовыя людзі з Новасад пастаянна падносілі яму ежу і ўсё неабходнае.

Падаў густы, праліўны дождж, — успамінаў Клімент, — маланка асляпляла вочы, зямля дрыжэла ад перуноў. У той час ён нёс Аляксею ў лес хлеб і сала. Праз некалькі мінут Аляксей Трашчотка з'явіўся ў назначанае месца. Быў увесь мокры, аброслы, — меў выгляд дзікага чалавека.

Шпікі і паліцыя стараліся ўсімі сіламі злавіць Трашчотку, але Трашчотка заўсёды ўцякаў у іх з-пад рук, нават з найбольш небяспечных засад.

Прыгнечаны і змучаны лясным жыццём, адсунуты ад людзей і таварышаў, пастанавіў наведаць сваю сяброўку Марыю Галёнка, якая пражывала ў Дубінах. Быў вечар. Аляксей сядзеў з Марыяй у кухні. Гутарылі аб сваіх блізкіх справах. Аляксея і Марыю збліжалі любоўныя пачуцці.

— Нядоўга ўжо нам так мучыцца, — шаптаў ён Марыі, моцна прытуліўшы яе да грудзей.

— Ой, Алёша, як добра, што ты са мною. Хоць на хвілінку забуду аб усім страшным.

— Мучаць наш народ, паганыя, — гаварыў далей Аляксей.

—Наша любоў, Алёша, таксама небяспечная для паліцыі, — заключыла Марыя.

— Мая дзяўчынка, канспіратар малы, жывы агонь у тваёй душы, — захапляўся Марыяй Аляксей.

Раптам пачуўся стукат у дзверы — раз, другі, трэці... Праз хвіліну стук паўтарыўся, яшчэ мацнейшы за першы — нехта дабіваўся штораз мацней. На момант стук прыціх...

— Хто там? — ледзь жывым голасам запытала Марыя.

— Адчыняй, паліцыя.

— Ох, Алёша, прапаў ты. Дзе-ж мне цябе хаваць, уцякай праз акно...

Марыя адтуліла заслонку і ўбачыла постаць паліцыянта. Паліцыянты штораз мацней білі ў дзверы.

—Адчыняй Марыя!—Аляксей забраўся на пліту, адсунуў дзверцы хлябовай печы, пачуў пах печанага хлеба, душнае, амаль гарачае паветра з печы бухнула яму ў твар.

— Алёша, што робіш, спячэшся... Хацела сказаць, што маці сёння хлеб пякла, але не дагаварыла.

— Ціха, — спыніў яе Аляксей, — ідзі адчыняй дзверы.

Аляксей сядзеў у гарачай печы, а тымчасам паліцыянты рабілі вобыск.

— Дзе схавала Трашчотку? — спытаў камендант, падыйшоўшы да Марыі, — ён тут павінен быць.

У той-жа момант падыйшоў другі паліцыянт і, напружыўшыся, заявіў:

— На гары няма нікога.

Твар Марыі быў белы, а сама дрыжэла. Дрыжэла за жыццё Аляксея. Паліцыя выйшла з хаты. Марыся кінулася ў кухню, хутчэй адчыніла дзверцы печы. Алёша ляжаў нерухомы.

— Не жывы, — з роспаччу сказала яна. Падбеглі бацька і маці, выцягнулі Алёшу з печы, палажылі на ложак і сталі класці кампрэсы на галаву. Аляксей паварушыў рукою.

— Мама, мама, ён жыве, — з радасцю ўскрыкнула Марыся.

Праз момант Аляксей расплюшчыў вочы. Спачатку імгла вілася перад вачыма, але памалу стаў

(Працяг на стар. 6)

# Ці карысны загар?

Загар — гэта абарона скуры ў адказ на ўздзеянне сонечных праменняў. Ён захоўвае арганізм ад перагравання. Пад уздзеяннем ультрафіялетавых праменняў выпрацоўваецца рэчыва меланін, якое ахоўвае скуру. Меланін мае розныя адценні ад светлажоўтага і цёмнакарычневага да чорнага.

Пад уплывам сонечнага святла ў арганізме чалавека адбываецца цэлы рад змен: павышаецца супраціўленне арганізма да розных захворванняў, лепш зажываюць раны. Асабліва добра ўплываюць ультрафіялетавыя праменні на ўмацаванне косці. Недахоп гэтых праменняў асабліва адмоўна адбіваецца на арганізмах дзяцей. Часцей за ўсё тыя дзеці, якія мала бываюць на сонцы, хварэюць на рахіт. Таксама і ў дарослых недахоп сонечных праменняў прыводзіць да ломкасці касцей, зніжае супраціўленне арганізма да розных захворванняў. Яшчэ ў старажытныя часы людзям было вядома, што сонечныя праменні маюць лячэбныя ўласцівасці:

«Толькі сонца сваім прамяністым святлом дае жыццё», — гаварылі старажытныя грэкі.

Усе мы імкнёмся як мага больш бываць на свежым паветры, на сонцы. І як толькі наступае цёплае надвор’е, гараджане адпраўляюцца адпачываць у поле, у лес, на берагі рэк. Вядома, што шчаслівейшымі за іх з’яўляюцца тыя людзі, якія могуць карыстацца прамяністымі дарамі сонца нават знаходзячыся на працы — гэта жыхары вёсак. Але як першым, так і другім трэба вельмі разумна карыстацца сонечным цяплом. Бо няўмелае карыстанне ім можа прынесці шкоду здароўю. Вынікам злоўжывання сонцам бывае перагрэў, апёкі і нават сонечныя ўдары. Кожнаму чалавеку, дзе-б ён ні жыў — у горадзе ці ў вёсцы, абавязкова патрэбна параіцца з урачом, як яму карыстацца сонцам.

А вось некалькі парад для ўсіх. Лепшым часам для загарання з’яўляюцца гадзіны з 10 да 12. Гэты час найбольш насычан ультрафіялетавымі праменнямі. Першае знаходжанне на сонцы не павінна перавышаць пяці мінут. Калі-ж арганізм загартуецца дастаткова, то сонечны абагрэў цела можна прадоўжыць да больш працяглай дозы — часу. Увогуле-ж знаходжанне на сонцы больш гадзіны не рэкамендуецца ні ў якім разе. Вельмі шкодна прымаць сонечныя ванны не паеўшы або адразу пасля прыняцця ежы.

Супрацьпаказана загаранне людзям, якія хварэюць на туберкулёз адкрытай або актыўнай формы, а таксама для тых, у каго парушана дзейнасць сардэчна-сасудзістай сістэмы. Пры дрэнным самаадчуванні, галаўных болях трэба ўстрымацца ад загарання і параіцца з урачом, як праводзіць сонечнае і паветранае лячэнні.

Гэта ўсё сказана ў парадку лячэбнай кансультацыі.

А што-ж можна параіць тым, хто цэлыя дні праводзіць на сонцы? Таксама не варта злоўжываць сонечнай энергіяй. Для гэтага патрэбна адпаведна апранацца асабліва ў першы — веснавы перыяд. Дзяўчаты могуць завязваць на галовы белую хусцінку або надзяваць шырокаполыя капялюшы. Сукенкі, касцюмы, а таксама галаўныя ўборы павінны быць пашыты з лёгкіх тканін светлых колераў. Больш за ўсё да гэтага падыходзяць баваўняныя тканіны. Ні за што не варта выкарыстоўваць для галаўных убораў, касцюмаў і сукенак капронавыя тканіны, шоўк і штапель. У іх хадзіць вельмі горача, цела пацее. Тым больш цяжка насіць такі касцюм чалавеку, які цэлы дзень фізічна працуе на сонцы.

Часамі даводзіцца бачыць, як дзяўчаты, працуючы на полі, захутваюць свой твар так, што толькі ледзь блішчаць вочы. Яны імкнуцца захаваць скуру твару белай. І гэтым самым шкодзяць здароўю. І не толькі таму, што з закрытым тварам цяжка рэгуляваць дыханне, але і тым, што занадта спешчаная скура твару лягчэй за ўсё паддаецца ўсялякім апёкам. Калі-ж здараюцца апёкі, трэба звяртацца за неадкладнай дапамогай урача.

Для тых, хто не вельмі любіць, каб твар б ў загарэлым, можна рэкамендаваць ужываць для гэтага спецыяльныя крэмы, мыць твар сыраквашай, сыраваткай ад кіслага малака, агурэчным расолам, салодкай смятанай. І тады не спатрэбіцца захутвацца ў хустку.

Адным словам, сонца баяцца не трэба. Яно дапаможа загартаваць здароўе. Але не варта і залішне ім захапляцца. Усё гэта патрэбна рабіць умела і разумна. Думаем, што гэтыя нашы парады дапамогуць вам.

Урач А. КОРХАУ



Падчас адпачынку...

# Сельскагаспадарчыя парады

## Калі касіць

Час сенакосу залежыць ад таго, як хутка вырастуць травы. Чым больш вільгаці і цяпла, тым травы растуць хутчэй. Але ад таго, калі трава скошана ў многім залежыць якасць і колькасць ураджаю.

А гаспадару патрэбна сабраць такую пашу, у якой было-б, магчыма, як найбольш кармавых рэчываў. Дзеля таго гаспадар павінен звяртаць увагу не толькі на тое, колькі цэнтнераў з гектара сабраў, але і на тое, якую пашу сабраў.

У многіх выпадках гаспадары гэтага і недаацэньваюць. Агульная колькасць сена з гектара ўзрастае разам з развіццём і ўзростам раслін аж да максімум, гэта значыць таго часу, калі травы ўжо поўнасцю квітнеюць. Калі расліны працвітаюць, утвараецца насенне, у той час вартасць расліны ўсебакова памяншаецца — старэйшае, ад споду лісцё сохне, і ўся энергія расліны накіравана на напаўненне зерня, а ў шматгадовых раслін апрача таго, на развіццё новага карэння. Побач таго ў расліне адбываюцца значныя хімічныя перамены, якія змяншаюць яе кармовую вартасць. Памяншаецца, перш за ўсё, колькасць бялка, а нарастае валакно, у выніку чаго травы робяцца цвёрдымі.

Лісцё з’яўляецца самай важнай часткай расліны — у ім збіраецца ў асноўным бялка і тлушч, а значна менш валакна чым у бадыленні. У большасці раслін кошаных на сена важным пераломным момантам з’яўляецца перыяд квітнення раслін. Пасля таго расліна, як корм, хутка траціць сваю вартасць.

Чым пазней гаспадар косіць сена, тым горш гэта адбіваецца на пазнейшых адрастаючых пакосах. Калі пазней збіраецца першае сена, то менш часу застаецца на адрост атавы. Апрача таго расліны першага пакосу выкарыстоўваюць многа вады з карэння і для атавы яе застаецца значна менш.

Чым раней збярэцца з поля першы пакос, тым больш ураджайным будзе наступны, у выніку чаго, на працягу цэлага вегетацыйнага перыяду, павышаецца агульны ўраджай культур аб лепшых кармовых якасцях. Аднак нельга часта заране касіць, таму што ў такіх выпадках значна памяншаецца колькасць ураджаю напрыклад, у такіх раслінах, як люцэрна выступае гніццё шыйкі кораня і расліны гінуць.

Бяручы пад увагу колькасць, высока ўраджайнасць расліннасці, агульную колькасць кармавых кампанентаў, страўнасць і пажыўнасць пашы з данага палетка, трэба сказаць, што найбольш адпаведны час для кашэння траў ці іншых кармавых культур ёсць тады, калі яны, выпускаюць кветкавыя почкі і пачатак квітнення.

Ад гэтага часу ўраджайнасць пашы можа яшчэ павялічыцца, але якасць яе, а затым і карысць для арганізму жывёлы — значна памяншаюцца. Звычайна заўсёды трэба касіць перш канюшыну, а потым сенажаць. Такія расліны, як канюшына, касіць на сена найлепш тады, калі яны пачынаюць квітнець. Канюшына скошана пасля квітнення — цвёрдая і памалу адрастае. Добра і рана сабранае сена, калі расліны найлепш вырасшыя — гэта высокаякасны корм.

Маючы такі корм, гаспадару не патрэбна купляць большай колькасці канцэнтраваных кармоў.

Аб тэхнічным боку ўборкі і аб правідловым кашэнні будзе напісана ў наступным нумары. Для пашырэння ведаў у гэтай галіне можна карыстацца наступнай літаратурай.

„Łąkarstwo“ — A. Dmitrijew wyd. PWR i L 1951 r.,

„Łąki i pastwiska“ — M. Nowiński, wyd. PWR i L 1950 r.,

„Agrotechnika“ tom II — praca zbiorowa, wyd. PWR i L rok 1951.

Інж. Л. ВАЙТОВІЧ

# Людзі з КПЗБ

(Працяг са стар. 5)

адрозніваць твары і святло лямпы. Выразна пачуў голас Марыі.

* * *

У красавіку 1937 года паліцыя арыштавала Аляксея Трашчотку і пасадзіла ў Ломжынскую турму. Падасланы «Дэфай» агент, нібыта прадстаўнік ЦК КПЗБ, які ведаў паролі, другі раз выдаў усіх КПЗБ-оўцаў у рукі паліцыі.

Паліцыя арыштавала мусіць з 20 дзеячоў партыі. У Бельскай «Дэфе» арыштаваным былі зроблены здымкі ў трох пазіцыях, а потым ізноў яны пераносілі трэціраванне ў катавальні. Паліцыя найбольш здзекавалася над самымі актыўнымі дзеячамі. Кожны раз у часе допытаў рабілі спробы завербавання на сваіх агентаў.

На допыт быў пакліканы Клімент Трашчотка. За сталом, усміхаючыся, сядзеў камісар паліцыі.

— Сядай, закуры, калі ласка, — ветліва звярнуўся да Клімента, падаючы яму пачку з папяросамі.

— Добры з цябе мужчына. Чуў, што цвёрдую скуру маеш. Біць цябе не будзем. Ты чалавек талковы, у такім выпадку мы з табою і так дамовімся, — гаварыў Кліменту камісар.

Клімент маўчаў.

— Падпішаш дэкларацыі аб супрацоўніцтве з намі, тады выйдзеш на волю. Атрымаеш грошы. Многа патрабаваць не будзем. Ну, куры, куры.

— Не хачу я курыць вашых папяросаў — нясмачны яны мне, лепша мне свая, мужыцкая махорка. Сумлення свайго таксама не прадам, — адказаў Клімент Трашчотка.

— Што, не падпішаш?

— Не, не падпішу. Я павінен быць правакатарам? О не, пане камісар. Не прадам сябе за немаведама што. Мы не гандлюем сваім сумленнем.

— Комуністычная свіння, — закрычаў камісар, — пасаджу ў турму, здохнеш як сабака... — і з усёй сваёй моцы ён ударыў Трашчотку тры разы ў твар. Пасля таго выняў белую хустачку і стаў ёю выціраць рукі.

— Пане камісар, мой твар мужыцкі, але чысты!

— Маўчы, кацап! Выдушым вас, як блох.

На другі дзень, пасля допыту, некаторыя былі выпушчаны з турмы, а 32 комуністы былі дастаўлены ў суд. Сярод абвінавачаных знайшліся КПЗБ-оўцы з Новасад.

Пастановай ваяводскага суда ў Беластоку былі засуджаны:

Аляксей Трашчотка — на 10 год цяжкага турэмнага зняволення.

Павал Трашчотка — на 8 год.

Рыгор Шварц — на 6 год.

Ян Верамюк — на 6 год.

Рыгор Данілюк — на 6 год.

Марыя Галёнка — на 5 год

Усе апошнія на 4 і 2 гады.

### З дапамогай рабочым

На хімічнай фабрыцы ў Гайнаўцы была арганізавана забастоўка. Комуністы, дзейнічаючыя на фабрыцы, паведамілі Раённаму камітэту, што не вытрымаюць забастоўкі, калі ім не дапамогуць сяляне. Таварышы з Новасад адразу пачалі збіраць харчы. На другі дзень рана сяляне з Новасад прывезлі фурай харчы бастуючым рабочым.

— Я вёз муку, кашу, бульбу, сала і мяса, — успамінае Клімент Бартламюк. Вуліца, нумар дома і чалавек, куды трэба было даставіць харчы, былі невядомымі. Трэба было сказаць пароль: «Рабоча-сялянскі саюз». Адказ павінен быў гучэць: «Супраць нашых супольных ворагаў». Праз некалькі дзён сяляне з Новасад атрымалі ліст ад бастуючых рабочых.

У лісце было напісана: «Забастовачны Камітэт хімічнай фабрыкі з Гайнаўкі да сялян вёскі Новасады.

Ад імя ўсіх рабочых хімічнай фабрыкі ад усяго сэрца дзякуем вам, браты-сяляне, за матэрыяльную дапамогу. Наша справа і барацьба з’яўляецца аднначасова і вашай справай. Нашай, адзінай, агульнай мэтай з’яўляецца ўстанаўленне рабоча-сялянскай улады. Верце нам, Гайнаўскі рабочы будзе цвёрда змагацца за ажыццяўленне гэтай мэты». Змест ліста, з якім былі пазнаёмлены сяляне на вясковым сходзе, зрабіў на ўсіх вялікае ўражанне.

«Няхай жывуць рабочыя з Гайнаўкі», — крыкнуў нехта.

«Няхай жыве рабоча - сялянскі саюз».

З кожным месяцам і годам усё больш умацоўваўся баявы саюз рабочых з працоўным сялянствам. Не раз яшчэ прыходзілася сялянам з Новасад арганізоўваць дапамогу рабочым, у якіх бывала і кавалка хлеба не было.

### Сустрэча з Лямпэ

КПЗБ-оўцы былі цалкам пазбаўлены праў, якімі карысталіся палітычныя вязні. Астрыжаныя, апранутыя ў турэмнае лахмоцце, мала калі выходзілі яны на паветра. У лістападзе 1938 года Аляксей Трашчотка і Павал былі адвезены ў турму ў Равіч. 2 тыдні прабываюць там паасобку, пасля чаго кідаюць іх у камеру, дзе сядзела 25 асоб. Тут яны і сустракаюцца з палітычнымі, якія былі засуджаны сама менш на 6 год турмы. Тут-жа, у гэтай камеры яны знаёмяцца з таварышам Лямпэ, які вёў масава - палітычную дзейнасць.

Лямпэ быў іх настаўнікам і самым блізкім таварышам. Да вязняў дайшла вестка аб ліквідаванні КПП і КПЗБ. Балючай была гэтая вестка.

У верасенёўскія дні вязні выломліваюць турэмныя брамы, абяззбройваюць стражнікаў і выходзяць на волю. Бяруць удзел у барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі.

Усе свае невычэрпныя сілы, увесь рэволюцыйны ўздым аддалі яны справе грамадскага і нацыянальнага вызвалення, толькі не ўсе з іх дачакаліся вольнай, народнай Польшчы.

БАРЫС НІКІЦЮК

## Усякая ўсячына

### Мыш у ракеце

Нядаўна Амерыканцы запусцілі міжкантынентальную ракету тыпу Тор-Вангард, якая павінна была праляцець 12.000 км. У шчыце ракеты знаходзілася жывая мыш. Амерыканцы хацелі такім спосабам праўдзіць, як нагрэецца ракета ў часе палёту праз атмасферу.

Першая частка ракеты выбухла ўжо пасля 30 км лёту. Другая частка зусім не запалілася і ракета незадоўга звалілася і згінула разам з мышай.

### Кот і сабака

Незаўсёды каты жывуць дрэнна з сабакамі, так як прыказка вучыць. Здараецца зусім наадварот.

Нядаўна ў Сербіі, у аднаго гаспадара, сучка прывяла 10 шчанят. Адначасова акацілася кошка. Аднак кацяняты паздыхалі. Тады кошка забралася ў кош, у якім знаходзілася сучка і пачала гадава... чатырох шчанят.

Другі цікавы выпадак здарыўся ў горадзе Дізэн у Заходняй Нямеччыне. Аднойчы гаспадар узлаваўшыся на ката пасадзіў яго ў мех і завязаўшы швыргануў у стаў. Поўгадзіны пасля гэтага кот ужо быў дома. Аказалася, што ката выратаваў сабака.

Пачуўшы мяўканне ката сабака скочыў у ваду, выцягнуў на бераг мех і дзёр яго лапамі і зубамі так доўга, аж прадзёр мех і кот вылез на вольнасць.




## Радыё (машэннік)

Закончыўшы Дзяржаўны радыётэхнічны ліцэй у Дзержанёве, малады радыётэхнік Уладзімір Гогель вярнуўся ў сваю родную вёску Лявонавічы на Беласточчыне. Закрунуўшыся па вёсцы Гогель незадоўга адкрыў прыватную майстэрню і пачаў рамантаваць радыёапараты, як ён сам гаварыў, — па-апошняму слову навейшай тэхнікі.

— Вось гэта дык чалавек, сапраўды сялянская душа, — загаварылі ў вёсцы.

— Іншыя закончыўшы некалькі класаў школы, пхнуцца ў горад, а ён бач, не забыў роднай вёскі, стаў адукаваным чалавекам, тэхнікам і вярнуўся да нас, — адабралі яго ўчынак сяляне.

Аднойчы ў майстэрні радыёмеханіка з'явіўся Язэп Банцарэвіч, жыхар Лявонавіч.

— Бяда, браток,—кажа Язэп.—Свята надыходзіць, чалавек меў-бы час і ахвоту паслухаць што там на шырокім свеце дзеецца, а тут як на злосць, радыёпрыёмнік забаставаў. Маўчыць, каб на яго хвароба, як вады ў рот набраўшы.

Механік узяў прынесены радыёпрыёмнік адчыніў яго, павярцеў тудысюды, адкрунуў адну - другую шрубку, пастукаў малаточкам ды кажа:

— Складаная тут справа, дзядзька, і працы будзе нямала, аднак нічога, наладзім. Заўтра прыходзь, забярэш, будзе працаваць як швейцарскі гадзіннік.

Назаўтра прыходзіць Язэп і пытае:

— Ну, ік там, сынок, мой радыёпрыёмнік?

— Усё ў парадку, дзядзька, — кажа механік, — толькі бач лямпа перапалілася, трэ новую ўставіць і будзе рэзаць. Ёсць у мяне добраякасная, заграfactual лямпа, — працягваў — такой, дзядзька, нідзе не купіш, а я з цябе вазьму не дорага, усяго 120 злотых. Вось яна, калі згодны, дык устаўлю, — закончыў механік падаючы Язэпу лямпу.

Язэп узяў, пакруціў яе ў пальцах і вырачыўшы са здзіўлення вочы сказаў:

— Гэта-ж мая лямпа, вось бачыш тры зарубінкі на баку напільнікам зрабіў

Механік пачырванеў як рак.

— Дык, што ты сабе, машэннік, думаеш, ашукваць аднавяскоўцаў надумаўся! — закрычаў Язэп. — Я вось табе пад вачыма такія лямпы пастаўлю, што лепш ад заграначных засвецяць!

— Ціха, дзядзечка, маўчы. Радыёпрыёмнік будзе іграць і за работу я з цябе не вазьму нічога, толькі маўчы, — прасіўся збянтэжаны механік.

Язэп узяў пад руку свой радыёпрыёмнік і плюнуўшы выйшаў з майстэрні.

На падставе карэспандэнцыі апрацаваў Шуляк

### Прыкладны гаспадар

...Ягоны першы выхад на зялёнае поле.

(Вожык)

### Поспех

— Ці паспею я на гадзіну чацвертую на цягнік — пытае падарожны селяніна ідучы на станцыю на прасткі праз сенажаць.

— Паспееце — адказаў селянін — а калі вунь гэты бык, які слаба ўвязаны сарвецца, то думаю, што будзеце на станцыі яшчэ раней чым трэба

## Цяга да багацця

Зажурыўсь хлапчына, павесіў галоўку,
Палюбіў дзяўчыну, але мала толку
Палюбіў дзяўчыну у суседняй хаці,
Ды сусед багаты, не хоча і знаці.
Ходзіць, пасабляе, без ўсякай заплаты,
Каб часцей хоць быці ў суседа ў хаці.
Паставіў шпіхерчык з бацькам у садочку,
Толькі ўзяў заплаты, што глядзеў на дочку.
А сусед з суседкай сядзіць ды смяецца,
Што яму з-за дочкі усё лёгка даецца.
Справа тут не ў дочцы, можна і так паняці
Кожны туды лезе, каб многа набраці
Тут род і багацце збралася да купы,
І стаіць хлапчына, як ў зіму разбуты.
Прыхудзеў ужо трохі, ніц не хоча есці,
Толькі ў яго думка, каб за зяця ўлезці.
Начамі не спіцца, днём няма спакою,
Думае хлапчына, што зрабіць з бядою
Хадзіў на парады да Івана Ігнаткі,
Ён хлапец старэйшы, бачыў усе выпадкі.
Думалі, гадалі, як і што пачаці,
Урэшце Іван кажа: — Трэ' паначаваці.
Іван хлапец добры, хітра яго дума,
Эх! удалася-б штука, быў-бы ён за кума.

ЯНКА ПАДРЭЧНЫ.

## Вераб'і

*Людзі пішуць вершы, спяваюць песні ў якіх дзеючымі героямі з'яўляюцца — салаўі, вясна, ён і яна. А вось аб такім малым вераб'і ніхто з паэтаў нават не ўспомніць...*

*А ў гаспадароў верабейчыкі аж у вантробах сядзяць, ды чырыкаюць. Вераб'і самыя маленькія птушкі але ўбытак сельскай гаспадарцы вялікі прыносяць. Наляціць на ніву вераб'іная хмара і адразу некалькі кілограмаў зерня з сабой забярэ. Чалавеку бегаць за вераб'ямі цяжка, таму вераб'і і круцяцца каля людзей нічога небаючыся. Праўда, людзі прабуюць змагацца з вераб'ямі, ставяць чучалы на палетках, аднак калі якому-небудзь храбраму вераб'ю ўдасца пасядзець на гэтым чучале, тады такі герой усяму вераб'інаму царству абвясціць па птушынаму радыё, што чучала не чалавек і баяцца яго няма патрэбы.*

*У Кітаі, каб забяспечыць пасевы ад знішчэння, аб'яўлена вайна вераб'ям і знішчаецца іх тысячамі. Вядома, кітайцы могуць пазволіць сабе на такую вайну — іх 600 мільёнаў. Кожны кітаец па адным вераб'ю зловіць і справа закончана, а ў нас народу не хопіць пералапаць усіх верабейчыкаў.*

*Што будзе, калі дэлегат кітайскіх вераб'ёў даляціць да нас і даведаецца, якое ў нас прывольнае жыццё для пернастых плямён. Тады без дапамогі камітэта па справах рэпатрыяцыі вераб'і з Кітая перасяляюцца да нас.*

*Па - мойму трэба і ў нас нарэшце заняцца пытаннем, якія птушкі шкодныя, а якія карысныя. Напрыклад вароны ніякай карысці нам не даюць. Маюць жалобны выгляд, непрыемны для вока, ані напеваў іх ніхто слухаць не хоча, мяса іх цвёрдае, нясмачнае і выходзіць так, што варона не заступіць ані салаўя, ані індзюка.*

*Кожная птушка карысная чалавеку. Дзяцел выклёўвае шкоднікаў з дрэў, шпак збірае чарвякоў і вусенняў, салаўі песні пяюць, зязюлі апавяшчаюць сколькі гадоў жыць будзем, буслы дзяцей носяць, а вераб'і і вароны — разбазыраныя птушкі.*

*Зразумела, па-кітайску нам выбавіць вераб'ёў труднавата, аднак можна было-б аднаго вераб'я злавіць, даць яму аплявуху каб спух. як заяц і выпусціць. Тады вераб'і паляцяць да Адэнауэра, скажуць, што дэмакратыі ў нас няма, а тэрор пашыраецца і папросяць даць ім права на палітычнае прыстанішча.*

Дзядзька Лявоп.

### Разжаліўся

Малы Федзя вельмі плача. Калі яго праходзячы чалавек спытаў:

— Чаго ты плачаш?

Ён адказаў:

— А бо... А бо тата мой сказаў на маму малпа, а мама тату, што, што ён ёсць аслом...

— То яшчэ не прычына да плачу.

— Так! То чым-жа-ж я буду?

аб.

## Філасофская крама „Мудрачарпаліца"

*(Купляем і прадаем бясплатна)*

Быў у аколіцы Таўрыза злодзей; калі яму нічога не трапляла пад рукі, ён выкопваў мерцвяка, здымаў саван, маляваў яго і збываў.

Жыхары гэтай краіны так цяжка ад яго цярпелі, што сталі жадаць яму смерці.

Памёр гэты чалавек, застаўся пасля яго сын. І стаў ён такім зладзеем, падобнага якому не было на свеце: ён выкопваў мерцвяка з магілы, здымаў саван, а мерцвяка саджаў на кол.

Жыхары гэтай краіны сталі дабром памінаць яго бацьку; той, казалі яны, здымаў саваны, але па крайняй меры не саджаў мерцвякоў на кол.

* * *

Аднойчы мудрацу вельмі захацелася есці. Ён запусціў лыжку ў гарачую страву, глытнуў і апарыў сабе рот і ўсё нутро. Падняў крык, выскачыў на вуліцу і ўсім, каго сустракаў, крычаў:

«— На бок, братцы, у мяне ў жываце пажар!»

### Геаграфічная адгаданка

(Апрацаваў А. Гжэсь)



На гэтым малюнку вы бачыце контуры 10 еўрапейскіх краін. Якія гэта краіны?

Сярод чытачоў, якія да 15 ліпеня г. г. прышлюць правільныя адказы будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.